Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года



№94 (15998) СЕРАДА, 21 чэрвеня 2000 года. Цана 25 руб.

● Навіны ● падзеі ●

## Абаранілі дыпломныя работы

Абарона дыпломных работ у дзіцячай мастацкай школе ператварылася ў значную падзею для навучэнцаў, іх бацькоў і выкладчыкаў. З 33 дыпломнікаў 16 атрымалі выдатныя адзнакі. А дыпломныя работы Аляксандра Ясюкайця, Максіма Гартмана, Юліі Жапчыц, Веранікі Аксёнавай і Вольгі Сарока былі адзначаны асобна. І гэта пры тым, што сёлета патрабаванні ў камісіі, куды ўваходзілі высокапрафесіянальныя спецыялісты, былі як ніколі жорсткімі.

Праз два гады школа будзе адзначаць свой сярэбраны юбілей. Паступіць у яе няпроста: конкурс бывае да 6 чалавек на адно месца – як у прэстыжную вышэйшую навучальную ўстанову. З аднаго боку гэта добра, бо выкладчыкам прадастаўляецца шырокі выбар, а з другога — разумееш, што пры наяўнасці большага памяшкання, у многіх дзяцей здзейснілася б мара трапіць сюды, замест таго, каб у вольны час бяздзейнічаць.

Навучэнцы школы пастаянна ўдзельнічаюць у прэстыжных конкурсах, уключаючы рэспубліканскі конкурс фонда Прэзідэнта.

Былыя выпускнікі становяцца прафесійнымі мастакамі, як, напрыклад, Святлана Бядзерына, Ціхан Абрамаў, Жана Будзейка, Ядзвіга Жураўлёва, Алена Нялюбіна, Вольга і Алена Нікіфаравы, Ірына Кустава, Ірына Куцава.

Паказальна, што, абараніўшы дыпломныя работы, многія рабяты працягваюць вучобу ў пятым класе, дзе займаюцца паглыбленай падрыхтоўкай, хаця не збіраюцца ў будучым стаць мастакамі. Гэта значыць, што яны адчуваюць важнасць таго, што атрыманыя веды па мастацтву не будуць бескарыснымі.

**Любоў БІДЗЮК.**

***25 июня - День молодежи***

## В воскресенье, у Дворца культуры “Шинников”

*В предстоящее воскресенье, 25 июня, в нашей республике будет отмечаться День молодежи. Чтобы этот день мог надолго запомниться молодым бобруйчанам постарались работники городского и районных отделов по делам молодежи, ГК БПСМ.*

*Начнется праздник в 15.00 со спортивной эстафеты, которая стартует в районе площади Ленина. Ее маршрут пройдет по ул. Пушкина, Минской , 50 лет ВЛКСМ и финиширует у ДК КСК “Шинник”, где с 16.00 развернутся главные события. Перед бобруйчанами выступят Андрей Хлестов, Елена Сауленайте, артисты шоу-балета “Кочетков-театр” и оригинального жанра. К нам приедут известные ведущие республиканского молодежного канала “Радио-стиль”! В самый кульминационный момент праздника в небо взлетят сотни шаров.*

*Завершится празднование Дня молодежи грандиозной дискотекой известного дискоклуба “Лига” из Могилева. Приходите, не пожалеете.*

**Н.ЖУРАВЛЕВА,**
***зав. отделом по делам молодежи горисполкома.***

## П’еса Мікалая Манохіна – на Міжнародным тэатральным фестывалі

Імя драматурга і пісьменніка Мікалая Манохіна добра вядома бабруйчанам па яго дзвюх п’есах, якія ідуць на сцэне тэатра драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Яго камедыя “Чорт у рабрыну” карыстаецца нязменным поспехам у публікі і нават пастаўлена ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы галоўным рэжысёрам, лаўрэатам Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, народным артыстам Беларусі Валерыем Раеўскім і ўпрыгожыла тэатральную афішу мінчан.

Як паведамілі са сталічнага тэатра нашаму карэспандэнту, днямі купалаўцы прынялі ўдзел у Міжнародным тэатральным фестывалі краін СНД “Гасцінны двор”, што праходзіў у Арэнбургу, і паказалі там манохінскую п’есу, якая выклікала вялікую цікавасць у гледачоў.

Ролю Парфёна выконваў народны артыст рэспублікі Генадзь Гарбук, Аляксандры – артыстка Ірына Рымарава.

**Яфім ГЕЙКЕР.**

## У “Белшины” – новый “рулевой”

19 июня состоялось собрание бобруйской “Белшины”, на котором футболистам был представлен новый главный тренер команды. Им стал Валерий Четверик, известный любителям футбола как тренер выведший команду КАМАЗ из Набережных Челнов в высшую российскую лигу.

Сегодня в 18.00 на городском стадионе “Спартак” бобруйчане проведут свой первый матч под руководством нового специалиста. Их соперником будет ФК “Лида”.

**А. БОГДАНОВИЧ.**

# ГАРАДСКІЯ “АКВАПАРКІ” – НЕ АНТАЛІЯ, АЛЕ І ТУТ АДПАЧЫЦЬ МОЖНА

За некалькі дзён да прыходу ў госці да нас доўгачаканага дачнікамі пахмурнага скандынаўскага цыклону атрымаў, напэўна, самае прыемнае за апошні час рэдакцыйнае заданне. Мне было загадана пайсці на гарадскі пляж і, памыляецеся чытачы, не выкупацца і пазагараць, а проста паназіраць, як у сёлетнюю летнюю спякоту адпачываюць нашы жыхары.

Як вядома, у Бабруйску і яготых аколіцах існуюць тры афіцыйна абсталяваныя “аквапаркі”. Яны размешчаны ля санаторыя імя Леніна, у шостым мікрараёне і на Фарштаце. Акрамя таго, многія гараджане аблюбавалі для адпачынку кар`ер паблізу вуліцы Набярэжнай, а таксама Туголіцкія рукатворныя азёры. Яны знаходзяцца блізка ад горада. Вада там чыстая, не засмечаная прамысловымі выкідамі. Але гэтыя копанкі знаходзяцца па-за зонай кантролю выратавальнікаў. А як сведчыць статыстыка, пляжныя трагедыі здараюцца, у асноўным, у месцах, не абсталяваных і не адведзеных для адпачынку на вадзе. Таму каб зняць небяспеку ў гэтай зоне адпачынку, у мінулым годзе гарадскімі ўладамі было прынята рашэнне перакапаць пад`язныя шляхі да дробных азёрцаў, а на буйным арганізаваць дзяжурства выратавальнікаў. Магчыма і сёлета гэтае рашэнне застаецца ў сіле.

Сваімі “наглядальнымі пунктамі” за адпачываючымі суайчыннікамі, я выбраў гарадскі пляж, прылягаючы да санаторыя, і “аквапарк” 6-га мікрараёна.

Старэйшае ў горадзе месца летняга адпачынку сустрэла мяне ласкавым плёскам рачной вады, жыватворнай прахалодай набярэжнага сквера; дзіцячым візгам і разрумяненымі целамі адпачываючых бабруйчан.

Бронзавыя ад загару бабруйчанкі, усе як адна стройныя, быццам бы Клаўдзія Шыфер, Наомі Кемпбел, або Лецыцыя Каста, у сваёй большасці кінулі выклік сёлетняй сучаснай еўрапейскай пляжнай модзе, заклікаючай сваіх прыхільніц вярнуцца ў “бронежылеты” закрытых, як у нас кажуць, купальнікаў. Нашым жанчынам, у сваёй большасці апранутым у розумапамрачальныя бікіні, няма чаго саромецца, бо ёсць што паказаць людзям, і, перш за ўсё, сваім сябрам з “новарускай” салiднай знешнасцю, падстаўляючым мясістыя бакі ласкаваму бабруйскаму сонейку.

Некаторыя з маладзейшых, як у “добрыя старыя часіны”, нават, пасаваліся, ці як зараз гавораць, гулялі ў пляжны валейбол на кромцы вады.

А ўвогуле не памятаю, як у мінулым годзе камунальнікі нашага горада падрыхтавалі да спякотнай пары гарадскія пляжы, але сёлета ім, здаецца, можна паставіць трывалую “тройку”, паколькі ўсё неабходнае для адпачынку на пляжах, здаецца, ёсць. Праўда, па самых аскетычных нормах і без палёту фантазіі ў рамках стандартаў якіх-небудзь шасцідзесятых гадоў.

Так, “санаторскі аквапарк” можа пахваліцца дзесяткам традыцыйных металічных грыбкоў ад сонца, “лабірынтнымі” раздзявалкамі, “спартыўнымі гарадкамі”, фантанчыкамі з пітной вадой, двумя туалетамі, урнамі і кантэйнерамі для смецця і доўгай алеяй з лавак.

Добра што і гэта ёсць, але ўсё ж такі на двары канец другога тысячагоддзя і для адпачынку людзям акрамя грыбкоў з раздзявалкамі проста неабходна і многае іншае.

Напрыклад, можа таму, што гэта быў будзённы дзень, але не працавалі гандлёвыя кропкі, у якіх можна было б купіць штосьці прахаладжальнае або смачненькае, каб пабалаваць і сябе, і дзяцей. Дарэчы, для дзяцей на пляжы не прадугледжана практычна нічога. Словам, такія паняцці, як сервіс і камфорт, даўно стаўшыя неад’емнай часткай месцаў адпачынку на Захадзе, гаспадары гарадскога пляжа, напэўна, проста не ведаюць.

Больш таго прырэчная паласа, якая калісьці зіхацела пад сонцам жаўцізной чыстага пяску, у большасці сваёй зарасла травой, пагарэлай на сонцы, а сама Бярэзіна тут нагадвае, прабачце, смярдзючае балота. Яна зусім не прыстасавана для купання, не прачышчана і не агароджана буйкамі. Хаця, якія там буйкі, калі рака тут проста падобная на заплыўшую пяском па калена копанку.

Таму і не дзіўна, што людзей было тут няшмат, ды і тыя ў асноўным проста песціліся пад летнім сонейкам, “фарбуючы” пад бронзу свае жываты і спіны.

Пляж у 6-м мікрараёне мне спадабаўся больш, хаця па напаўненню тымі ж “малымі архітэктурнымі формамі” і палёту фантазіі ён ні чым не адрозніваецца ад “цэнтральнага гарадскога пляжа”, але рака тут намнога чысцейшая і прыгажэйшая, пяску на пляжы хапае ўдосталь, а купальная зона размешчана побач з брандвахтай выратавальнай службы.

Вось толькі для аўтааматараў тут менш зручнасцей, чым на “санаторскім” гарадскім пляжы. Там абсталявана добрая аўтастаянка, а тут пад паркоўку людзі прыстасавалі былы прычал. І ў гэтым не было б нічога дрэннага, калі б гэты прычал ад старасці не прыйшоў у аварыйны стан: бетонныя пліты, якімі ён калісьці быў перакрыты, праселі і практычна ў любы момант пад грузам аўтамашыны могуць скласціся нібы картачны домік...

Зараз у самым разгары спякотнае лета. Але далёка не кожнаму адпускніку па кішэні з’ездзіць на адпачынак у якую-небудзь Анталію ці хаця б на Нарач. Вельмі многія вымушаны набірацца сіл не выязджаючы за межы горада. І гэтыя людзі таксама дастойныя добрага сервісу і хаця б мінімальнага камфорту. Але кожны год з пачаткам лета пры арганізацыі адпачынку на гарадскіх пляжах мы наступаем на адны і тыя ж граблі: грыбочкі, раздзявалкі — вось і ўвесь набор для камфортнага правядзення часу ля ракі. Таму і не дзіўна, што львіная доля гараджан, нягледзячы на штогадовыя забароны, выязджае ў лясныя масівы за горад на адпачынак. Яны вымушаны так рабіць.

**Валерый ЗІНОЎСКІ.**

## ПРЫЁМ У ВНУ – НА ПРЭЗІДЭНЦКІМ КАНТРОЛІ

Бліжэйшай прыёмнай кампаніі ў ВНУ Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка надае вялікую ўвагу. Толькі за апошні месяц даная праблема на высокім узроўні абмяркоўвалася двойчы. Чарговае пасяджэнне прайшло 14 чэрвеня. Выступаючы на ім, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што прыём у ВНУ – гэта спаборніцтва розумаў, а не кашалькоў і знаёмстваў.

Прэзідэнт акцэнтаваў увагу на маральна-псіхалагічнай атмасферы, у якой будуць праходзіць прыёмныя экзамены. У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да членаў дзяржаўнай камісіі і яе кіраўніка – віцэ-прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Ігара Валатоўскага – з шэрагам патрабаванняў. Перш за ўсё, лічыць ён, трэба наладзіць сур’ёзны кантроль за фарміраваннем і работай прыёмных камісій у ВНУ. Штогод іх склад павінен абнаўляцца не менш, чым на трэць. З другога боку, неабходна павярнуцца тварам да абітурыента. Гэта значыць, што ўсе скаргі і апеляцыі павінны разглядацца ў самыя сціслыя тэрміны.

## К 56-й годовщине освобождения Беларуси

# ВОЛНУЮЩЕЕ ВПЕЧАТЛЕНИЕ

В Бобруйском краеведческом музее очень много впечатляющих материалов, посвященных Великой Отечественной войне. Среди них привлекают внимание портреты известных на Бобруйщине подпольщиков и партизан, которые сражались с немецко-фашистскими захватчиками в глубоком тылу.

Вот Сергей Герасимович Акулич. Он был одним из организаторов патриотического подполья на Березинском форштадте, а потом вместе с семьей ушел в партизанский отряд. Этому мужественному человеку чудом удалось уйти из камеры смертников незадолго до предполагаемой казни фашистами.

Здесь же в экспозиции портрет Николая Борисовича Храпко. Бывший бухгалтер уже в июле 1941 года организовал небольшую группу единомышленников, которая начала активно действовать на территории Глусского, Бобруйского, Октябрьского районов. Потом эта группа выросла в партизанский отряд имени Кирова, командовал которым Н. Б. Храпко. В лесных зонах этих и других соседних районов начали боевые действия и еще несколько партизанских отрядов, которые затем объединились в 37-ю партизанскую бригаду имени Пархоменко. В последствии она называлась 2-й Бобруйской партизанской бригадой под командованием Алексея Васильевича Львова. А комиссаром этой бригады был Н. Б. Храпко.

В раздумье стоишь перед портретом Виктора Сикорского. Он в солдатской гимнастерке с орденами на груди. Это Виктор Израилевич вывез в лесную зону шрифт и другие приспособления для печатания в лесных условиях листовок и партизанской газеты. Потом в отряде Виктора Ильича Ливенцева командовал группой подрывников, участвовал в так называемой "рельсовой" войне, вместе с товарищами взорвал на Березине большой теплоход с вражескими солдатами и награбленным у населения грузом с продуктами.Этот отряд также, вместе с другими, вошел в состав 1-й Бобруйской партизанской бригады, под командованием того же В. И. Ливенцева, которому было присвоено высокое звание Героя Советского Союза.

Эти и несколько других портретов мужественных подпольщиков и партизан выполнены уроженцем Бобруйска, ленинградским художником Абрамом Рабкиным, так же участником Великой Отечественной войны. Многие посетители музея, а их в эти дни было немало, молча отдают свою дань уважения мужественным народным мстителям, подолгу останавливаются и перед другими стендами в экспозициях музея.

**Вадим ШМЫГОВ.**

## Святлана БАСУМАТРАВА

# ЯЗМІН СОРАК ПЕРШАГА ГОДА

*Радзіму пайшоў берагчы,*
*Даверана сыну граніца.*
*А маці не спіць уначы.*
*Каторую ноч ёй не спіцца.*
*Вось, думае, вернецца сын.*
*Нявесткаю стане нявеста.*
*Буяе духмяны язмін*
*На ціхіх ускраінах Брэста*
*А ўжо дасліваюць даўно,*
*Як гронкі варожыя змовы.*
*Фашысты з газет і кіно*
*Крычаць апантана прамовы*
*Шчэ коціцца лета ў зеніт,*
*Шчыруе навокал прырода.*
*Лагодзіць сабой краявід*
*Язмін сорак першага года.*
*Не чэрвеньскі гром загрыміць,*
*Успыхне не зрок бліскавіц -*
*Парвецца нябачная ніць,*
*Завяжацца бой на граніцы*
*Між небам, вадой і зямлёй*
*Парушыцца вечная згода,*
*І будзе абліты крывёй*
*Язмін сорак першага года.*
*Не ведае маці пакуль,*
*Што побач пагроза начуе*
*Шалёнага посвісту куль*
*Ні слыхам, ні сэрцам не чуе.*
*Запомнім на векі вякоў*
*Байцоў пагранічнага ўзвода.*
*Застыў у вачах юнакоў*
*Язмін сорак першага года.*
*Не стоміцца маці чакаць*
*І год, і чатыры, і сорак.*
*І будуць салдаты ляжаць*
*Пад строгай жалобаю зорак.*
*І доўгая будзе вайна*
*І подзвіг свяшчэнны народа.*
*...А покуль цвіце ля вакна*
*Язмін сорак першага года.*

## ПРАФСАЮЗНАЕ ЖЫЦЦЁ

# У АБАРОНУ ІНТАРЭСАЎ ПРАЦОЎНЫХ

**На справаздачна-выбарчай прафсаюзнай канферэнцыі завода "Бабруйскаграмаш" людзі зноў выбралі старшынёй прафкома В. П. ЯРОМЕНКУ. Адразу ж пасля канферэнцыі наш карэспандэнт Міхаіл КРЫВЕЦ сустрэўся з ім і папрасіў расказаць аб планах работы новага прафкома, зробленым, праблемах у яго дзейнасці.**

**– Віталь Пятровіч, Вас ужо ў трэці раз выбіраюць старшынёй прафсаюзнага камітэта на пяцігадовы тэрмін. З чым я і віншую. Але мяне цікавіць чыста рабочы аспект. Што ўдалося зрабіць прафкому з намечанага за пяць гадоў, а што не?**

– *Задача прафсаюза ёсць, была і будзе адна – абарона эканамічных і сацыяльных інтарэсаў працоўных.* І тут галоўнае – павышэнне зарплаты. Штосьці ўдалося зрабіць у гэтым плане, але задача далёка не выканана. Мяркуйце самі. Калі ў 1997 годзе сярэднямесячная зарплата складала 84,2 долары ЗША, то ў 1999 годзе – усяго 43,6. Сёння зарплата канчаткова страціла свае стымулюючыя функцыі да якаснай і высокапрадукцыйнай працы. Аналіз эканомікі і сацыяльных палітыкі паказвае, што ўзровень зарплаты рабочых не залежыць ад таго, як яны працуюць, як працуе прадпрыемства. Прафсаюзу трэба прымаць рашэнні аб далейшых дзеяннях, нягледзячы на абмежаванне і ганенне актыўных прафсаюзных лідэраў і арганізацый.

Нездарма ж наш прафсаюз работнікаў *аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання* ў звароце да Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. В. Ярмошына (у маі 2000 года) побач з канстантацыяй пагаршэння эканамічнага і фінансавага становішча прадпрыемстваў галіны, ростам стратных заводаў, падзеннем узроўню рэнтабельнасці, зніжэннем аб'ёмаў вытворчасці звярнуў асаблівую ўвагу на нізкую зарплату на прадпрыемствах, асабліва ў глыбінцы, у тым ліку і на нашым заводзе, дзе яна значна ніжэй, чым у мінчан.

У гэтым звароце адзначалася таксама, што амаль усе працоўныя галіны выказваюць незадавальненне памерам зарплаты, неадпаведнасцю яе пастаяннаму росту цэнаў. Людзі дайшлі да таго, што ў апытаннях ставяць пад сумненне дадзеныя дзяржавай статыстыкі па індэксу росту цэнаў.

**– На мінулай справаздачна-выбарчай канферэнцыі яе дэлегаты прынялі новую калектыўную дамову, свайго роду канстытуцыю завода. Якія новыя "законы" упісаны туды?**

– Яны ў асноўным тычацца абароны правоў і інтарэсаў завадчан. Так, у сувязі з рэфармаваннем эканомікі *і палітычнымі пераўтварэннямі прафсаюз сутыкнуўся з мноствам новых складаных праблем.* Мы выступалі і выступаем за аднаўленне пакупніцкай здольнасці зарплаты, спыненне росту цэнаў на спажывецкія тавары. *Менавіта на абарону гэтых патрабаванняў,* радыкальнае паляпшэнне жыцця людзей і накіраваны дзеянні прафкома. Гэта і дадатковы водпуск работнікам за стаж работы больш 10 гадоў (за кожны год адзін дадатковы дзень водпуску, але не больш чатырох дзён у годзе).

У адпаведнасці з Працоўным кодэксам Рэспублікі Беларусь у дамове запісалі аб выплаце зарплаты ў два прыёмы, выдачы дапамогі ў трохдзённы тэрмін у выпадку няшчасных выпадкаў з работнікамі. Будзе аказваецца дапамога і працоўчым інвалідам на іх лячэнне. Перагледжана таксама палажэнне аб водпуску ўсіх работнікаў у адпаведнасці з новым кодэксам.

**– Што за "законы" прапісаны па ахове працы?**

–Уключылі ў новую дамову ажно 52 мерапрыемствы па ахове працы і экалагічнай бяспецы. Яны тычацца адкрыцця пакояў для прыёму ежы і іх рамонту, паляпшэння вентыляцыі і асвятлення, тэмпературнага рэжыму ў асноўных вытворчых цэхах, рамонту бытавых памяшканняў.

**– Зноў жа вернемся да сацыяльнай падтрымкі членаў прафсаюза, іх сем'яў. Што канкрэтна з'явілася ў новай дамове?**

– *Запісалі канкрэтныя пункты* па аказанню матэрыяльнай дапамогі членам прафсаюза. Як з боку наймальніка, так і прафсаюза. Для гэтай мэты з бюджэту прафсаюзнай арганізацыі будзе выдзяляцца 10 працэнтаў ад яго памеру.

Не забыліся і аб пенсіянерах – былых работніках завода. Ім будуць выдзяляцца падарункі да свят, аказвацца матэрыяльная дапамога. Для пенсіянераў у дамове вызначана выдача пуцёвак, у памеры пяці працэнтаў ад іх агульнай колькасці, дапамога ў забеспячэнні палівам тых, хто пражывае ў прыватных дамах, аплата за кошт завода рытуальных паслуг. За непрацуючымі пенсіянерамі захоўваецца права на паляпшэнне жыллёвых умоў і на аздараўленне.

Для дзяцей работнікаў прадпрыемства будуць выдзяляцца пуцёўкі ў аздараўленчы лагер "Пціч". Яны будуць поўнасцю забяспечаны гэтымі пуцёўкамі ў завадскі лагер. Дзецям-інвалідам да 18 гадоў прадугледжана дамовай выплата 12 мінімальных зарплат у год з выплатай грошай паквартальна.

**– Віталь Пятровіч, у той час, калі ідзе наступленне на прафсаюзы, новая армія чыноўнікаў сама размяркоўвае ўсялякія пуцёўкі толькі праз аздараўленчыя цэнтры, чым раней бясплатна займаліся прафсаюзы, Вы ўсё ж працягваеце работу па утрыманню розных культурных устаноў. Ці не вельмі накладна?**

– Імкнемся і надалей утрымліваць гэтыя ўстановы. Прафком пры вострым недахопе сродкаў утрымлівае прафсаюзную бібліятэку, фізкультурна-спартыўную залу ў інтэрнаце і заводскі клуб. Выдаем зарплату іх штатным работнікам, набываем новую літаратуру. Дзейнічаюць вакальна-інструментальны ансамбль і гурткі мастацкай самадзейнасці, працуюць клубы па інтарэсах. У спартыўнай зале займаецца больш 200 дзяцей і падлеткаў, якія ахоплены рознымі відамі спорту. *Завадчане прымаюць актыўны ўдзел* і ў правядзенні шматлікіх гарадскіх спартыўных і культурных мерапрыемстваў. Усё гэта накладна, але само жыццё патрабуе менавіта такіх дзеянняў.

**– Дзякуй за інтэрв'ю, творчых поспехаў на прафсаюзнай ніве, здзяйснення жаданняў і задумак.**

# "ХОДЯТ" ЛИФТЫ ВВЕРХ-ВНИЗ, ДА ДО ПОРЫ ДО ВРЕМЕНИ

Ровно неделю назад, 13 июня, в доме № 45 на улице Лынькова вследствие пожара, устроенного в лифте неизвестными злоумышленниками, на долгое время жильцы третьего подъезда вышеназванного дома лишились элементарного в высотном здании средства передвижения-доставки к собственным квартирам. Благодаря оперативным и умелым действиям пожарных огонь не наделал большей беды, хотя последствия чьей-то идиотской выходки могли стать страшной трагедией. Да и в данном случае материальный ущерб исчисляется миллионами в деноминированных рублях.

Кстати говоря, все оборудование пассажирского лифта стоит более семи миллионов этих самых рублей. Только на приобретение запасных частей, электрооборудования для ремонта лифта на Лынькова, 45 потребуется, как рассказал начальник Бобруйского участка арендного предприятия "Могилевлифт" Владимир Петрович Галицкий, практически ровно половину того, что стоит оборудование для нового лифта. Это без учета затрат на производство ремонтных работ.

К сказанному следует добавить, что по мнению специалистов и как показывает практика – легче смонтировать три лифта в строящемся здании, чем произвести такой ремонт, какой необходим в доме на ул. Лынькова. Поэтому, учитывая тяжелое финансовое положение ремонтников, можно с большой долей вероятности утверждать, что жутко не везет жителям тех домов, где выходят из строя лифты.

Вообще в нашем городе на сегодняшний день насчитывается около 600 лифтов. Из них 25 лифтов, – это сравнительно немного, уже отработали предусмотренный нормативный срок. Однако время эксплуатации лифта, а точнее период его жизнедеятельности, отнюдь не зависит напрямую только от качества оборудования, обслуживания и ремонта. Работники Бобруйского участка арендного предприятия "Могилевлифт", несмотря на невысокую заработную плату, которую получают с большой задержкой, в целом справляются со своей работой. Но ведь главным определяющим условием долголетия лифта является то, как он эксплуатируется гражданами. К сожалению, судьба у бобруйских лифтов в большинстве своем весьма незавидная. Отношение потребителей зачастую варварское. Лифты по сути дела превратились в объекты повышенного издевательства и повсеместно уничтожаются. Можно только удивляться тому, что к настоящему времени лифты еще "ходят" вверх-вниз, но все имеют логический финал.

Казалось бы, что живя, откровенно сказать в такой бедности с нищетой – люди обязаны становиться бережливее к тому, что имеют. Ничто само собой не дается, но увы, современные реалии мало чему учат.

Что интересно? В домах ЖСК лифты находятся в более лучшем состоянии, чем в жилкоммунхозовских домах. Почему? Напрашивается единственный ответ – оплата за лифт в доме ЖСК взимается в полном объеме, а в государственных домах жильцы возмещают лишь пятую часть затрат необходимых на их обслуживание. Невольно напрашивается вывод, что все-таки все в нашей жизни регулируется рублем, в том числе отношение к общедоступным благам и ценностям. Или как?

**М. МИХАЙЛОВ.**

## Информация для предпринимателей

# СТРАХОВАНИЕ – ДЕЛО ДОБРОВОЛЬНОЕ...

Государственное социальное страхование индивидуальных предпринимателей является по закону сугубо добровольным, однако следует помнить, что уплачивая страховые взносы индивидуальные предприниматели приобретают право на пенсию по возрасту, инвалидности, в случае потери кормильца, а также на пособия по временной нетрудоспособности и другие выплаты из фонда социальной защиты населения.

Желая застраховаться, предприниматель должен зарегистрироваться в качестве плательщика страховых взносов в органах Фонда социальной защиты населения по месту жительства. *Уплата страховых взносов* производится в размере 15 процентов от дохода индивидуального предпринимателя ежеквартально.

Индивидуальные предприниматели, которые в процессе своей деятельности привлекают к работе наёмных граждан должны знать, что с этого года обязательному социальному страхованию подлежат как граждане, работающие по трудовому договору, а также и те, кто выполняет работы или оказывает услуги по гражданско-правовым договорам, в том числе по трудовым соглашениям.

Поэтому после заключения договора с гражданами индивидуальный предприниматель должен зарегистрироваться в качестве плательщика за наемных лиц и производить уплату страховых взносов в определенные договором дни выплаты заработной платы. Взносы начисляются на все виды выплат независимо от источника финансирования.

Кроме того, индивидуальный предприниматель обязан ежеквартально до 12 числа отчитываться в отдел социальной защиты населения по месту жительства о начисленных и уплаченных суммах страховых взносов, а также средствах, израсходованных на пособия.

К сведению, регистрация плательщиков страховых взносов производится в отделах Фонда социальной защиты населения, расположенных по адресу: г. Бобруйск, ул. Октябрьская, 149-А.

**Л. НИКИФОРОВА,**
***начальник отдела социальной защиты по Первомайскому району.***

# НА ЗВАНИЕ ЛУЧШЕЙ МЕДСЕСТРЫ

*В 290-м военном госпитале, которым руководит подполковник Святослав Гавриленко, проведен традиционный конкурс на звание лучшей медсестры.*

*С учетом накопленного в течение 21 года опыта, ведущим, в роли которых выступили врач-стоматолог Ирина Лебедева и подполковник медицинской службы Иван Лавренов, удалось в полной мере реализовать разработанную программу,обеспечить музыкальное сопровождение и активное участие зрителей в конкурсе.*

*Оценив теоретические знания, находчивость и практические навыки претенденток на победу, судейская коллегия,возглавляемая заместителем начальника госпиталя– начальником медицинской части подполковником Александром Позняком, присудила " бронзу " Виктории Грановской и " серебро " Оксане Соломенцевой,– представительницам приемного и хирургического отделений. Главный же приз и почетное звание лучшей медсестры 2000- го года достались Елене Лобейко к великой радости лечащего персонала и пациентов лоротделения.*

**Виктор ФИЛОНОВ,**
***подполковник.***

Служба інфармацыі "БЖ"

# Аб упарадкаванні разлікаў за жыллёва-камунальныя паслугі

**У сродках масавай інфармацыі, у тым ліку ў "Бабруйскім жыцці", ужо паведамлялася пра плату за кватэрную плошчу згодна з новымі правіламі. Ішла размова і пра аплату лішніх квадратных метраў. На гэты раз інфармацыя аб плаце за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) жылля па ўстаноўленых стаўках атрымана з гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Тлумачэнні дае начальнік планава-эканамічнага аддзела Антаніна КАГАРЛІЦКАЯ.**

– Для ўпарадкавання разлікаў за жыллёва-камунальныя паслугі, што аказваюцца насельніцтву, устанаўлення роўнай для наймальнікаў і ўласнікаў платы за жылыя памяшканні, іх тэхнічнае абслугоўванне, – заўважае Антаніна Аляксандраўна, – Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь унёс дапаўненні ў пастанову, што была раней зацверджана па дадзеных пытаннях.

1. Па ўстаноўленых стаўках, сказана ў саўмінаўскім дакуменце, бярэцца плата за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) жылым памяшканнем ў межах 20 кв. метраў агульнай плошчы на кожнага члена сям'і наймальніка, уласніка, члена арганізацыі грамадзян-забудоўшчыкаў, у тым ліку тых, якія захоўваюць права карыстання жылым памяшканнем, і 10 квадратных метраў агульнай плошчы на ўсю сям'ю.

Плата за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) астатняй плошчай бярэцца па нарматыўным кошце эксплуатацыі жыллёвага фонду, што зацверджаны абласным выканаўчым камітэтам.

Па ўстаноўленых стаўках бярэцца плата за карыстанне (тэхнічнае абслугоўванне) аднапакаёвай кватэрай ці жылым памяшканнем, якое заселена некалькімі наймальнікамі, уласнікамі, членамі арганізацыі грамадзян-забудоўшчыкаў.

2. Плата за карыстанне адным жылым памяшканнем, якое знаходзіцца ва ўласнасці і (ці) здадзена па дагавору ў наймы, пры адсутнасці ў ім уселеных ва ўстаноўленым парадку наймальніка ці ўласніка і членаў яго сям'і, а таксама за ацяпленне гэтага жылога памяшкання ажыццяўляецца згодна з п. 1 (пры наяўнасці адпаведных дакументаў):

дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, членамі Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы ў парламенце Рэспублікі Беларусь на прафесійнай аснове і часова пражываюць са сваімі сем'ямі ў выдзеленым службовым памяшканні ў горадзе Мінску;

апекунамі ці папячыцелямі з нагоды выканання адпаведных абавязкаў – на працягу ўсяго часу іх выканання;

непаўналетнімі дзецьмі, над якімі ўстаноўлена апека (папячыцельства) і якія пражываюць у апекуна (папячыцеля) – да дасягнення імі 18-гадовага ўзросту ці да аб'яўлення іх ва ўстаноўленым парадку поўнасцю дзеяздольнымі;

грамадзянамі, якія вочна навучаюцца ў аспірантуры, дактарантуры, ардынатуры, у навучальных установах і ў іншых гарадах;

грамадзянамі якія праходзяць тэрміновую вайсковую службу, афіцэрамі, што праходзяць вайсковую службу па прызыве, курсантамі вайскова-навучальных устаноў у час праходжання службы.

**Наш кар.**

На жыццёвых скрыжаваннях

# ТРЫ ХАЛАДЗІЛЬНІКІ

*У кожнага чалавека ёсць свой унутраны свет. І дома, дзе ён жыве, таксама ёсць, адзіны і непаўторны. І вельмі важна, каб у гэтым свеце, як і ў цэлым на Планеце людзей, было ціха, сонечна, спакойна. Многае залежыць ад кожнага, ад яго намаганняў зрабіць свой дом мірным і ўтульным.*

*На жаль, назіраючы за людзьмі на вуліцы, дома, на працы, у грамадскім транспарце, у магазінах заўважаю, што не ўсе клапоцяцца пра свой душэўны стан, тут шмат эгаістычнага, падчас – дурнога.*

*А гэта бывае тады, калі чалавек думае толькі пра сябе і зусім не думае пра іншых. Аднак ведаю нямала і такіх, якія вельмі клапоцяцца пра гармонію свайго ўнутранага свету з тым, у якім мы жывём. Гэта добрыя, чулыя людзі.*

*Сям'я, бацькоўскі дом... Менавіта адсюль мы нясем у вялікі свет уменне жыць з людзьмі. Але каб жыць у міры і згодзе з чужымі людзьмі, трэба навучыцца спачатку жыць так з роднымі і блізкімі. У гэтым таксама ёсць свае складанасці, нездарма ж кажуць, што цяжэй за ўсё нам даецца дабрыня да блізкіх.*

*Людзі, асабліва ў вялікіх гарадах абасоблены. Няхай жа вогнішчам, ля якога можна сагрэцца ў наш бурлівы тэхнічны век, будзе для кожнага сям'я. Але, на жаль, яна мірная не ва ўсіх. Зрэдку гэта дом, дзе ўсім холадна...*

*Давайце тварыць дабро. Кожны дзень. І пачнем з дому.*

*Я лічыла Ірыну Рыгораўну вельмі добрай маці. Яе дачка Клара і сын Саша раслі як усе нармальныя дзеці. У школе вучыліся добра, слухаліся. Калі дзеці былі яшчэ падлеткамі, з сям'і пайшоў бацька. Шмат часу прайшло, але праз некаторы час яна сустрэла мужчыну, які стаў ёй мужам, а дзецям – сябрам.*

*Ірына Рыгораўна не шкадавала ні сіл, ні часу, ні здароўя для таго, каб яе дзеці былі сытыя, адзетыя, абутыя. Калі запрашалі гасцей да сябе, то рыхтаваліся да прыёму ўсе разам, не забывалі падарыць кветкі маці ў дзень нараджэння. Сям'я кожны вечар збіралася разам.*

*Маці вельмі ганарылася, што ў яе такія добрыя дзеці.*

*Саша жаніўся раптоўна. Было вяселле з белай сукенкай, вэлюмам, пярсцёнкамі. Так у сям'ю Ірыны Рыгораўны ўвайшоў новы чалавек. Маці была задаволена нявесткай.*

*Але... Разам з нявесткай у іх доме з'явіўся яшчэ адзін халадзільнік. Маці думала, што нічога дрэннага тут няма: стварылася новая сям'я, ім трэба вучыцца весці гаспадарку самім. Яна і муж старалiся весці сябе так, каб не парушаць традыцыі дома, каб нявестка не адчувала сябе чужой. Але штосьці ў паводзінах маладых проста ашаламляла.*

*Аднойчы Ірына Рыгораўна прыйшла на кухню, каб прыгатаваць вячэру. За сталом сядзелі маладыя.*

*—Добры вечар, —сказала маці.*

*Яны адказалі, але не звярнулі на маці ніякай увагі. Сесці да стала не прапанавалі. Яна пайшла з кухні расстроеная. Раней такога не было. Што здарылася? І яшчэ дзесяць "што".*

*Пакой маладых быў пад замком. Што яны там хаваюць? Ад каго? Раней ніхто нічога не хаваў.*

*Прайшоў час. Ірына Рыгораўна стала бабуляй. А хутка і Клара выйшла замуж і яшчэ адзін новы чалавек прыйшоў у іх сям'ю. Тыдзень прайшоў пасля вяселля, а ў кухні з'явіўся ... яшчэ адзін халадзільнік, потым –замок на дзвярах, але шакіраваў маці не замок, а тое, што замыкалі пакой нават тады, калі хтосьці быў дома.*

*Не, не так маці ўяўляла сабе той час, калі ў іх сям'і з'явяцца нявестка і зяць—каханыя яе сына і дачкі. Раней яна думала, што гэтых людзей яна будзе таксама горача любіць, як і сваіх дзяцей. Якія б яны не былі –прыгожыя ці не, разумныя ці не вельмі, абы яны кахалі адно аднаго.*

*Але не здарылася такога. Здавалася, стала вялікая сям'я, усе павінны быць дружныя, але ... Кожны стаў сам па сабе. Марыла, вядома, што будуць любіць і яе, як маці Клары і Сашы. Іншых адносін яна сабе не ўяўляла.*

*Яна вырасла без бацькоў, якіх забрала вайна, яна заўсёды цягнулася да дабраты. Ніколі ёй не хацелася дарагой мэблі, усялякіх атрыбутаў, якія робяць жыллё, падобнае на музей. Больш за ўсё яна цаніла ў людзях прыстойнасць і глыбіню душы.*

*І вось усё рушылася. З'явіліся скрытнасць, незадавальненне адзін адным, узаемныя прэтэнзіі, папрокі. І няўвага – дачка і зяць маглі ўключыць магнітафон на поўную магутнасць і позна вечарам выключыць.*

*І такое было: маці мыла вокны, а ні сын, ні дачка не прапанавалі дапамагчы. Жыццё стала невыносным.*

*І Ірына Рыгораўна вымушана была размяняць такую вялізную кватэру, дзе раней было так цёпла. З вялікімі цяжкасцямі ёй дасталася маленькая кватэрка. А колькі нерваў было сапсавана.*

*Але я думаю: а ці зможа забыць маці аб усім тым, што паспелі нагаварыць ёй дзеці, ці патушыцца тая крыўда, за халоднасць і жорсткасць, ці прачынаецца яна начамі ад тугі і расчаравання.*

*Не падзякі і паклонаў чакала Ірына Рыгораўна ад сваіх дзяцей за тое, што вырасціла. І не павінны чакаць бацькі падобнай падзякі. Яна чакала павагі да яе, ужо немаладой, не вельмі здаровай, напрацаваўшайся на сваім вяку. Яна ніколі не прыніжала інтарэсы сваіх дзяцей. Ці цяжка зразумець гэта яе адукаваным, разумным дзецям? Сапраўды, мы многае не разумеем да таго часу, пакуль не адчуем на сабе жорсткасць іншых людзей, іх раўнадушша, неразуменне. Але ўпэўнена, што Ірына Рыгораўна не жадае сваім дзецям, каб яны былі такія ў адносінах да ўсіх і яе.*

*Лічу гісторыю пра тры халадзільнікі выключэннем.*

*Ведаю сям'ю, дзе нявестка спрабавала пасварыць свайго мужа з яго маці. Але ён сказаў: "Мама мяне выявучыла, вырасціла. Я –сын! Да гроба буду ўдзячны ёй і буду дапамагаць. Ты павінна гэта зразумець. А не разумееш...". Маладая жанчына аказалася разумнай, а сын – мудрым, інакш бы ён так не сказаў. Клапоцячыся пра сваю сям'ю, не забывайце пра маці і бацьку.*

*У некаторых дзяцей шмат патрабаванняў да бацькоў. Папрокаў. Прэтэнзій. Напрыклад, такіх: "Вось пражылі і нічога не накапілі. Павучыліся б у іншых як жыць". Як крыўдна слухаць такое бацькам, яны лічылі, што галоўнае – моцная сям'я, здаровыя дзеці.*

*Наслухаўшыся такіх гісторый я падумала: правы англічане ў тым, што даўшы адукацыю дзецям, поўнасцю іх аддзяляюць і тыя жывуць самастойна, спадзеючыся толькі на свае рукі. І нашым бы дзеткам –так! Менш было б дармаедаў, якія жывуць за кошт бацькоў. Бо мы беражэм іх ад усялякіх цяжкасцей, яны не жывуць клопатамі бацькоў, іх бедамі. "Няхай паспіць, будзе свая сям'я, напрацуецца". Гэты жаль — для бацькоў. Але многія гэта прымаюць як належнае: "Абавязаны, павінны" І забываюць пра свае абавязкі, аб тым, што сталеюць, а бацькі ўжо маюць патрэбу ў клопатах і дапамозе.*

*Жаль, што гэтага не зразумелі дзеці Ірыны Рыгораўны.*

*А можа яшчэ чыесьці.*

**Валянціна СТРАЛЬЦОВА.**

Пакаштуйце — смачна

## СЯМЕЙНЫ АБЕД



**Чым жа пачаставаць сваіх дамачадцаў? Гэтае пытанне задае сабе кожная гаспадыня. Прапануем рэцэпты страў, якія не патрабуюць вялікага ўмення. Магчыма, некаторыя з іх вы скарыстаеце ў меню нядзельнага сямейнага абеду.**

### "Чорная ікра"

250 г аржанога чэрствага хлеба, 2 вараныя яйкі, 30 г грэцкіх арэхаў, 1 ч. лыжка лімоннага соку, часнок, соль і алей па смаку.

Размачыць у халоднай вадзе хлеб, адцiснуць. Яйкі дробна парэзаць, часнок расцерці з соллю і здробненымі грэцкімі арэхамі. Усё перамяшаць і ўзбіць, дабаўляючы пакрыху алей і лімонны сок. Па смаку нагадвае чорную ікру.

### Салата "Гранатавы бранзалет"

Гэтая салата робіцца слаямі. На плоскае блюда выкласці слой пацёртай на буйной тарцы адваранай бульбы, на яго – слой адваранай і нацёртай морквы, потым слой дробна нарэзанага адваранага ці абсмажанага курынага мяса, затым вараныя буракі, нацёртыя разам з грэцкімі арэхамі, і, нарэшце, слой гранатавых зярнят. Кожны слой прамазваць маянэзам.

Даць салаце крыху пастаяць, і яна гатова.

### Суп бульбяны з грыбной мукой

З сухіх грыбоў можна прыгатаваць грыбную муку, размалоўшы грыбы ў кавамолцы. Такая мука незаменная для соусаў і супоў.

**600 г бульбы, 2 цыбуліны, 2 ст. лыжкі масла, 2,5 ст. лыжкі мукі, зяленіва пятрушкі і кропу, соль і прыправы па смаку.**

Бульбу парэзаць кубікамі, заліць вадой і давесці да кіпення. Цыбулю і муку абсмажыць да залацістага колеру, заправіць імі суп, праз 5 хвілін усыпаць ад 5 да 10 ст. лыжак грыбной мукі. За некалькі хвілін да гатоўнасці бульбы пакласці прыправы, пасаліць. Перад падачай на стол пасыпаць зяленівам.

### Мяса з яблыкамі, запечанае ў малочным соусе

**800 г ялавічыны, 5-6 яблыкаў, 1 ст. лыжка мукі, 1,5 шклянкі малака, 2 ст. лыжкі масла, соль.**

Мяса адварыць і разрэзаць на тонкія кавалкі, муку падсмажыць да светла-жоўтагаколеру, развесці гарачым малаком і праварыць 5-10 хвілін на невялікім агні, пасаліць. Ачышчаныя ад скуркі і асяродка, яблыкі нарэзаць тонкімі скрылікамі.

На дно змазанай маслам патэльні пакласці скрылікі яблыкаў, потым уперамешку з яблыкамі кавалкі мяса, заліць падрыхтаваным соусам, апрыскаць распушчаным маслам і запячы ў духоўцы.

### Пірожнае на смятане

**2 шклянкі мукі, 2 шклянкі смятаны, 6 яек, 1 шклянка цукру, ванілін, цукровая пудра.**

Цукар расцерці з жаўтком дабяла, дабавіць смятану, ванілін, перамяшаць, усыпаць муку, а затым увесці ўзбітыя ў пену бялкі. Усё асцярожна перамяшаць, цеста пераліць у форму, змазаную маслам, і паставіць у негарачую духоўку на 20-25 хвілін. Гатовы бісквіт разрэзаць на прамавугольнікі і абсыпаць цукровай пудрай.

# АНТОНІ РАДЗІВІЛ ВЯРНУЎСЯ НА БЕЛАРУСЬ

Урна з прахам нашчадка беларускіх магнатаў Радзівілаў нядаўна была дастаўлена ў нашую краіну з Англіі. Для ўдзелу ў жалобнай цырымоніі ў Беларусь прыляцелі родныя Антонія Радзівіла – ягоная ўдава, два сыны і нявестка. Спадарыня Радзівіліха перадала ў дарунак Беларусі сямейную рэліквію – унікальную карту нашай краіны, выробленую напрыканцы XXVI стагоддзя па заказе князя Радзівіла Сіроткі. Уручаючы беларусам свой дар, госця выказала спадзяванне, што старажытная карта дапаможа новым пакаленням беларусаў спасцігаць гісторыю Бацькаўшчыны.

У Нясвіжы ва ўрачыстай атмасферы адбылася цырымонія перапахавання Антонія Радзівіла – яго прах знайшоў вечны прытулак у крыпце Радзівілаў, што ў Фарным касцёле. Каля трох гадзін доўжылася жалобная імша, пасля чаго адбыўся канцэрт-рэквіем, у часе якога сярод іншых музычных твораў гучэлі і кампазіцыі, створаныя некалькі стагоддзяў таму радавітымі продкамі Антонія Радзівіла.

**Інфармацыя падрыхтавана паводле "Нашай Нівы".**

З залы суда

# СЯБРОЎ МЫ ВЫБІРАЕМ САМІ...

Ёсць такая прымаўка: "Бацькі нам даюцца ад Бога, затое сяброў мы выбіраем самі". Усё так, вось толькі пры выбары таварышаў па жыцці трэба больш арыентавацца на іх чалавечыя якасці, а не на тое, колькі сябар за раз можа "выжлукціць" гарэлкі, ці наколькі ён лёгкі на руку, або які крымінальны стаж мае.

На жаль, вельмі часта менавіта апошнія "мастацтвы" і майстэрства з`яўляюцца рашаючым довадам для ўсталявання сяброўства.

Грэбавалі гэтай жыццёвай навукай, па ўсёй бачнасці, і бабруйчане Юрась Топаў і Іван Пціцын, хаця паміж сабой і не былі знаёмымі. Але звязвала іх сяброўства з адным і тым жа гарачым хлопцам — Сяргеем Астачым. Грэбавалі, і паплаціліся. Адзін, з падачы Астачага, ледзь не стаў калекам, а другі, калі б не медыкі, дык загінуў бы.

Але аб усім па парадку. У свае 27 гадоў Сяргей лічыў сябе чалавекам з вялікім жыццёвым вопытам. Як-ніяк, а прайшоў ён сапраўды ўжо агонь, ваду і медныя трубы. Быў тройчы судзімы. Першы раз яшчэ ў 1990 годзе на тры гады пазбаўлення волі, другі – зноў на тры гады амаль адразу ж па выхадзе з месцаў зняволення, а трэці — да выпраўленчых работ ужо ў 1999 годзе.

Аднак, гаворачы міліцэйскай мовай, "на шлях выпраўлення не стаў, належных вывадаў для сябе не зрабіў і зноў утварыў цяжкае злачынства". А дакладней кажучы, дык нават два злачынствы, аб`яднаныя ў адну судовую справу.

У канцы мінулага года ў час разборкі са сваім знаёмым Юрасём Топавым, Сяргей, якога сябар абвінаваціў у крадзяжы з ягонага дома мяса, сала і іншых прадуктаў харчавання, у якасці апошняга аргумента схапіў кухонны нож і кінуўся з ім на Юрася. У выніку Топаў атрымаў раненне левага пляча з пашкоджаннем промнявага нерва і парушэннем функцый кісці рукі.

Праз некаторы час наш "герой" Сяргей Астачы са знаёмай прыйшоў у госці да свайго таварыша Івана Пціцына. "Перахапілі" у таго грошай, на якія набылі гарэлкі. Зразумела, выпілі па шклянцы, потым паўтарылі, потым яшчэ дадалі. А калі сабутэльнікі, як гаворыцца, дайшлі да кандыцыі, то паміж імі пачаліся п`яныя разборкі старых крыўд.

Высвятленне адносін перарасло ў сварку, а потым і ў бойку. І Сяргей Астачы зной прыбег да свайго апошняга аргумента – нажа. Схапіўшы на кухні нож, ён ударыў ім свайго сабутэльніка.

На гэты раз, па заключэнню судова-медыцынскай экспертызы раненне, нанесенае Івану Пціцыну, было аднесена да катэгорыі цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Удар сябра прыйшоўся ў левую палову грудной клеткі. Нож закрануў адно лёгкае і левы жалудачак сэрца.

Як тут зноў не ўспомніць народную мудрасць: "Сяброў мы выбіраем самі..."

Суд Першамайскага раёна, разгледзеўшы гэтую крымінальную справу, прыгаварыў Сяргея Астачага да васьмі гадоў і 5 месяцаў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў выпраўленча-працоўнай калоніі строгага рэжыму.

Хацелася б, каб гэтая гісторыя паслужыла для моладзі ўрокам пры выбары знаёмых і сяброў, каб падобнае не паўтаралася.

Па этычных матывах прозвішчы дзеючых асоб зменены.

**А.ШЭСТАПАЛАВА,** ***старшы памочнік пракурора Першамайскага раёна; юрыст 1-га класа;***
**В.БОЦМАН.**

